СВАБОДА

28 красавіка 1995 г.

№17

Кошт 300 рублёў

# Сіла і хлусьня — апошняя зброя прэзідэнта

## Апазіцыю папярэджваюць...

**Дэпутат Сяргей Навумчык паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ, што з боку рэжыму Лукашэнкі рыхтуюцца правакацыі супраць найбольш актыўных дзеячаў апазіцыйных сілаў.**

"Гэтую інфармацыю, — сказаў С.Навумчык, — мы атрымалі ад дасьведчаных людзей, якія сьцьвярджаюць, што разглядаюцца нават варыянты фізічнага "устранения" шляхам арганізацыі сьмяротных аўтакатастрофаў, інсцэніроўкі самагубстваў альбо іншым падобным чынам". **М.Г.**

## Стужку па-ранейшаму хаваюць

**Кіраўнік сьледчай групы Пракуратуры Рэспублікі Я.Бролішс абверг апублікаванае днямі паведамленьне пра тое, нібыта відэазапіс гвалтоўнага захопу дэпутатаў Апазіцыі ў парламанцкай зале ў ноч на 12 красавіка знаходзіцца ў руках сьледства.**

"Пракуратура зьвярталася ў прэзідэнцкую адміністрацыю з мэтаю атрымаць гэтую стужку, аднак пакуль нам яе не перадалі", — заявіў Я.Бролішс.

Хто ж распаўсюдзіў дэзінфармацыю? Як высьвятляецца, гэтая хлусьня сыходзіла ад прэзідэнцкай прэс-службы. Таму можаце не зьдзіўляцца, калі ў хуткім часе Лукашэнка заявіць, што стужку выкраў Пазьняк.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Эўропа занепакоеная

**Ад імя ўсіх краінаў Эўрапейскага Зьвязу, паслы Вялікабрытаніі, Італіі, ФРГ і Францыі перадалі ноту беларускаму ўраду, у якой выказваецца занепакоенасьць з боку гэтых дзяржаваў інцыдэнтамі, што адбыліся нядаўна ў беларускім парламанце.**

Урады краінаў Эўрапейскага Зьвязу спадзяюцца, што ў Беларусі "працэс разьвіцьця дэмакратыі і свабоды будзе праходзіць нармальным чынам, у прыватнасьці, падчас маючых адбыцца парламанцкіх выбараў", — падкрэсьліваецца ў заяве для прэсы.

Першы намесьнік міністра замежных справаў Беларусі В.Цэпкала ў размове з карэспандэнтам СВАБОДЫ назваў ноту "запозьненай рэакцыяй", што, на ягоную думку, выклікана складанай працэдурай узгадненьня падобных заяваў (дзеля гэтага патрэбна апытаць усе 15 краінаў, якія ўваходзяць у Эўрапейскі Зьвяз). Сп.Цэпкала сказаў, што на гэтую ноту "ніякага адказу зь беларускага боку ня будзе".

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## СВАБОДУ зноў забараняюць

**26 красавіка дырэктар Аршанскай друкарні сп.Лясота паведаміў у рэдакцыю, што на яго "ціснуць зьверху", каб ён у аднабаковым парадку неадкладна скасаваў дамову на друк газэты СВАБОДА.**

У выпадку, калі дырэктар ня зробіць гэтага, яго пагражаюць звольніць з пасады. Апошнімі днямі ў друкарню рэгулярна наведваецца супрацоўнік мясцовага КДБ, які заявіў, што ён хоча пазнаёміцца з арыгіналам-макетам чарговага нумара СВАБОДЫ да таго, як ён патрапіць на друкарскую машыну.

Цалкам верагодна, што адміністрацыя Лукашэнкі закрые для нас і Аршанскую друкарню. Нам давядзецца выходзіць нелегальна. Наступным крокам ўладаў можа быць забарона распаўсюджваць СВАБОДУ праз кіёскі "Саюздруку". Але падпісчыкам яны вымушаныя будуць дастаўляць газэту. 20 красавіка пачалася новая падпісная кампанія.

**Выпісвайце і чытайце СВАБОДУ!**

**Вынікі сацыялагічнага апытаньня** *стар.2*

**Сьпіс кандыдатаў дэмакратычнага блоку** *стар.3,6*

**Перадвыбарчая эканамічная платформа Беларускага Народнага Фронту** *стар.4—5*

**Аўтамабіль Чыгіра шукае ўся міліцыя** *стар.8*

## Пасол ЗША сустрэўся з прэсай

**26 красавіка Пасол Злучаных Штатаў Амэрыкі ў Рэспубліцы Беларусь Кенэт Явіц сустрэўся з прадстаўнікамі незалежных пэрыядычных выданьняў, якія выходзяць у Менску.**

Пасол Явіц выказаў зацікаўленасьць у разьвіцьці ў Беларусі свабоднай прэсы, якая зьяўляецца важным элемэнтам амэрыканскай зьнешняй палітыкі ва ўсім сьвеце.

**Прэс-служба амбасады ЗША**

Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990

Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павал Жук
Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd."

Наклад 93 000

Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул. Іванаўская, 56
Тэл./факс 36-24-41

## Багданкевіча здымаюць?

**Апошнімі днямі ў журналісцкіх колах ходзяць чуткі, што прэзідэнт Лукашэнка нібыта падпісаў указ аб адхіленьні Станіслава Багданкевіча ад пасады старшыні Нацыянальнага банку.**

Чыноўнікі адміністрацыі прэзідэнта не пацьвярджаюць, але і не абвяргаюць гэтую інфармацыю.

Тым часам, 26 красавіка прэм'ер М.Чыгір запрасіў С.Багданкевіча на аўдыенцыю з Лукашэнкам, якую прызначылі на 16 гадзінаў. Патэлефанаваўшы сп.Багданкевічу, мы даведаліся, што сустрэча не адбылася з прычыны "занятасьці прэзідэнта іншымі справамі". С.Багданкевіч таксама адказаў, што пра звальненьне з пасады "нічога афіцыйна яму не паведамляў".

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## Як "выпрамляюць" прамы эфір

**У нашу рэдакцыю паступае шмат тэлефанаваньняў з пытаньнем, чаму прадстаўнік газэты СВАБОДА ня ўдзельнічаў у тэлевізійнай прэс-канфэрэнцыі з прэзідэнтам Лукашэнкам.**

Адказ вельмі просты: нас туды ніхто не запрашаў. Паводле нашых зьвестак, сьпіс журналістаў на гэтую тэлеперадачу быў складзены прэс-службаю прэзідэнта, а дакладней — палкоўнікам Замяталіным.

Напярэдадні выбараў (прыкладна 11 траўня) зноў плануецца тэлеэфір з удзелам Лукашэнкі. Гэтым разам тэлекамэры мяркуецца паставіць таксама на вуліцах сталіцы, каб простыя людзі маглі задаць прэзідэнту свае пытаньні. Цалкам верагодна, што гэтымі "простымі людзьмі" будуць пераапранутыя міліцыянты і палкоўнікі. Прэс-служба прэзідэнта здольная "выпраміць" нават самы прамы эфір.

**А.ДАШЧЫНСКІ**

## Першыя "абяцанкі-цацанкі"

**Кандыдаты ў дэпутаты па Берасьцейшчыне пачалі даваць першыя перадвыбарчыя абяцанкі.**

Пакуль на першае месца па неверагодных абяцанках выбіўся загадчык аддзелу адукацыі Камянецкага райвыканкаму Віктар Дымар. Ён у выпадку абраньня яго дэпутатам намераны вярнуць насельніцтву ўклады ў ашчадных касах, пералічыўшы іх у даляравым эквіваленце на момант укладу. Выплату грошай Дымар зьбіраецца ажыцьцявіць у бліжэйшыя 2—3 гады пэнсіянэрам, а ўсе астатнія наб'юць свае кашалькі далярамі да 2000 году.

На другім месцы — Аляксандар Працэвіч, дырэктар школы ў Берасьці. У выніку абраньня дэпутатам ён абяцае выбаршчыкам пабудаваць у сваімі мікраёне за 2—3 гады мінімум дзьве агульнаадукацыйныя школы.

На трэцім — Сьцяпан Навасельчан, дырэктар школы №20 г.Берасьця. Яго абяцаньне больш сьціплае, але надзённае. Як толькі яго абяруць дэпутатам Вярхоўнага Савету, ён у той жа дзень адправіць Лукашэнку кнігу аб правілах добрага тону.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

## Бацюшкі сьвяткавалі Вялікдзень разам з кандыдатамі

**Падобна на тое, што праваслаўная царква актыўна ўключылася ў выбарчую кампанію.**

Напрыклад, айцец Касьян у вёсцы Вялікія Сьцепанішкі Мастоўскага раёну, падчас велікоднай службы, адкрыта заклікаў вернікаў галасаваць на выбарах за старшыню Мастоўскага райсавету Аляксандра Апалоніка. Ён балатуецца па мясцовай выбарчай акрузе.

Падобную карціну можна было назіраць і ў вёсцы Сіняўка Клецкага раёну. Айцец Мацьвей, зьвяртаючыся да вернікаў, пачаў нахвальваць старшыню Клецкага райвыканкаму П.Рэўцкага, які балатуецца ў дэпутаты Вярхоўнага Савету. Людзі папрасілі сьвятара спыніць палітычную прапаганду і працягваць службу. У адказ бацюшка раззлаваўся, прыхапіў вядро велікодных яек і зьехаў разам з кандыдатам Рэўцкім.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Нарэшце, хоць адзін чалавек дасягнуў запаветнай мары

**Прэзідэнт Лукашэнка нарэшце дасягнуў запаветнай мары: праз пару тыдняў ён будзе сядзець у кабінэце першага сакратара ЦК КПБ.**

21 красавіка на сустрэчы з супрацоўнікамі апарату Вярхоўнага Савету, скліканай зь ініцыятывы прэзідэнта, Лукашэнка катэгарычна заявіў, што "глава государства должен размещаться в здании ЦК партии". Вярхоўнаму Савету ён прапанаваў пераехаць у правае крыло Дома ўраду, дзе спэцыяльна вызваляецца частка кабінэтаў. "До 1-го мая надо закончить этот процесс переезда, чтоб тут всё вымыть и вычистить. Можете забрать с собою столы, блокноты, но оставьте только эти стены", — сказаў прэзідэнт, падкрэсьліўшы, што "с позиции силы я действовать не хочу, я вас просто прошу".

Гаворачы пра новы Вярхоўны Савет, Лукашэнка заявіў, што "неизвестно, сколько будут идти эти выборы, может они и до конца года не состоятся".

Відавочна, што Лукашэнка зацікаўлены як мага хутчэй заняць будынак ЦК, бо разумее, што з прыходам новага Вярхоўнага Савету яму ня ўдасца ажыцьцявіць сваю запаветную мару, паколькі закон не на ягоным баку. Назіраючы за ўсёй гэтай мітусьнёю, нам застаецца толькі парадавацца: нарэшце хоць адзін чалавек у нашай краіне атрымлівае ўсё, пра што марыць.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**



# Што думае грамадзтва

**На замову газэты СВАБОДА незалежная сацыялагічная служба правяла апытаньне грамадзкай думкі ў Беларусі з мэтаю высьветліць настроі напярэдадні парламанцкіх выбараў. Апытаньне праводзілася ў пэрыяд 10—16 красавіка паводле рэпрэзэнтатыўнай выбаркі (апытана 1062 рэспандэнты з усіх рэгіёнаў краіны). Вынікі наступныя:**

***Што вас больш за ўсё непакоіць?***
*(Выберыце тры адказы)*

| | |
|---|---|
| Рост цэнаў | 24,5% |
| Рост злачыннасьці | 12,5% |
| Нізкі ўзровень заробку | 11,7% |
| Бездапаможнасьць улады | 8,8% |
| Пагроза беспрацоўя | 6,9% |
| Карупцыя | 6,6% |
| Адсутнасьць эфэктыўнай сістэмы сацыяльнага забесьпячэньня | 5,8% |
| Пагроза адпраўкі нашых салдат у гарачыя кропкі СНД | 5,0% |
| Працьвітаньне спэкуляцыі | 5,0% |
| Адсутнасьць рэформаў | 4,6% |
| Стан навакольнага асяродзьдзя | 3,3% |
| Захаваньне ўлады ў руках намэнклатуры | 2,9% |

***Што, на вашую думку, павінен зрабіць новы ВС у першую чаргу?***
*(Выберыце тры важнейшыя задачы)*

| | |
|---|---|
| Узмацніць барацьбу са злачыннасьцю | 24,9% |
| Дамагчыся строгага выкананьня законаў | 22,2% |
| Павысіць пэнсіі | 0,1% |
| Прыняць законы аб падтрымцы моладзі | 8,9% |
| Увесьці рынкавыя адносіны ў поўным аб'ёме | 8,7% |
| Увесьці свае грошы | 4,7% |
| Забясьпечыць перападрыхтоўку працоўных | 4,2% |
| Прыняць законы аб дзяржаўнай службе | 3,3% |
| Правесьці прыватызацыю | 3,0% |

***Зь якой краінай Беларусь павінна разьвіваць выгадныя адносіны перш за ўсё?***
*(Выберыце тры найважнейшыя)*

| | |
|---|---|
| Расея | 28,7% |
| Украіна | 19,8% |
| Нямеччына | 10,9% |
| ЗША | 8,8% |
| Польшча | 6,9% |
| Літва | 6,8% |
| Японія | 3,0% |
| Англія | 2,9% |
| Францыя | 2,7% |
| Казахстан | 1,5% |
| Кітай | 1,2% |
| З усімі | 0,6% |
| Былога СССР | 0,2% |

***На вашую думку, кандыдат у дэпутаты новага Вярхоўнага Савету павінен быць:***
*(Выберыце тры якасьці)*

| | |
|---|---|
| Сумленным | 27,2% |
| Адукаваным | 25,1% |
| Незалежным | 10,8% |
| Мець вопыт кіраўнічай работы | 8,0% |
| Буйным спэцыялістам | 7,1% |
| Прадстаўніком працоўнага калектыву | 4,9% |
| Мець вопыт працы у выбарных органах | 4,6% |
| Вядомы вам асабіста | 4,2% |
| Належаць да нейкай партыі | 2,1% |
| Любіць народ | 0,7% |
| Прыстойны | 0,2% |
| Думаючы | 0,2% |
| Прафэсіянал | 0,2% |
| Эканаміст | 0,2% |
| Справядлівы | 0,2% |
| Энэргічны | 0,2% |
| Малады | 0,2% |

## Лукашэнку не спадабаўся "дух" на трактарным заводзе

**Як вядома, Аляксандар Лукашэнка мінулым тыднем наведаў Менскі трактарны завод. Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі паведамілі пра гэты візіт ўсяго некалькімі радкамі, хаця прэзідэнт знаходзіўся на заводзе каля сямі(!) гадзінаў.**

Грамадзкасьці краіны Лукашэнка па тэлевізіі так патлумачыў мэту свайго візіту на трактарны завод: "Паглядзець, як рабочыя тут працуюць і вызначыцца з палітыкай цэнаў і зарплаты. Неабгрунтаваную зарплату атрымліваюць некаторыя прадпрыемствы..."

Прэзідэнт меркаваў, відаць, убачыць на МТЗ сытых і задаволеных жыцьцём рабочых, якія нізавошта атрымліваюць вялікія грошы. На самой справе ён сутыкнуўся тут зусім зь іншым.

Па традыцыі адміністрацыя завода наладзіла прэзідэнту экскурсію па тэрыторыі. Паказалі яму і галоўны канвэер прадпрыемства, дзе працуе звыш тысячы чалавек. І вось тут Лукашэнку чакала ня толькі знаёмства з тэхналогіяй зборкі трактараў, але і арганізаваная акцыя зборшчыкаў. Дачуўшыся пра візіт прэзідэнта, на галоўным канвэеры раніцою прайшлі сходы рабочых, на якім быў выпрацаваны Зварот да кіраўніка дзяржавы. Лукашэнку дакумант уручыў адзін зь лідараў зборшчыкаў Аляксандар Астапчук. У Звароце гаворыцца: "Выбіраючы Вас Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, мы галасавалі за Ваша абяцаньне запусьціць прадпрыемствы да 1 студзеня 1995 года... Сёлета, нягледзячы на Вашыя абяцаньні, мы працуем 9—10 дзён у месяц, таму ў нас заработная плата, на якую немагчыма пражыць. Да таго ж зь лістапада месяца нам яе выплочваюць несвоечасова. На сёньня, згодна калектыўнай дамове, мы павінны былі атрымаць зарплату за сакавік месяц, аднак не атрымалі яшчэ нават авансу. Як нам жыць? Чым карміць дзяцей?.."

Прэзідэнт паабяцаў рабочым разабрацца з адміністрацыяй, якая ня можа заняць іх працай. Праўда, ён тут жа забыўся на свае словы. Сабраўшы ў актавай зале заводзкае начальства і старшыняў цэхкамаў афіцыйнага прафсаюзу, Лукашэнка правёў зь імі нараду "за зачыненымі дзьвярыма". Паводле нашых зьвестак, прэзідэнту вельмі не спадабаўся "дух" простых трактаразаводцаў і ён, ва ўласьцівым яму рэзкім тоне, запатрабаваў ад начальства навесьці парадак у рабочым асяродзьдзі.

**Міхал ХВАЙНІЦКІ**

## Музыкай сям'ю не накорміш

**На мінулым тыдні рабочыя гарадзенскага прадпрыемства "Аўтамагнітола" выйшлі на скрыжаваньне вуліц Горкага і Курчатава і на чатыры гадзіны спынілі рух транспарту.**

"Аўтамагнітола" — прадпрыемства канвэрсійнае і крызіс не ім зацягнуўся. Пасьля забастоўкі некалькі месяцаў таму тут быў прызначаны новы дырэктар С.Шэлепенка. Але ён ня даў рады і месяц таму напісаў заяву аб звальненьні.

Галоўнае патрабаваньне працаўнікоў — выплата заробку грашыма. Рэч у тым, што заробак ім выдалі магнітоламі з разьліку 345 тыс.рублёў за магнітолу. Аднак за такі кошт прадаць магнітолу не атрымліваецца, бо на іх спаў попыт. Рабочым удалося дамагчыся, каб кошт магнітолаў зьменшылі да 310 тыс. рублёў. Гавораць, што начальства адразу вырашыла скарыстаць з гэтага. Паколькі яно зарабляе значна больш за рабочых, дык адразу кінулася, каб атрымаць па адной дадатковай магнітоле.

Рабочыя "Аўтамагнітолы" ўзялі прыклад з гарадзенскіх абутнікоў, якія напачатку месяца пратэставалі, спыніўшы на вуліцы транспарт. Дарэчы, тралейбуснае ўпраўленьне патрабуе цяпер ад абутнікоў сплаты штрафу за тое, што зь іхнай віны транспарт прастаяў 4 гадзіны. Відаць, такі ж штраф тралейбусьнікі выставяць і "Аўтамагнітоле".

**В.ВАСІЛЕВІЧ**

## "Дыванам Брэста" нідзе няма месца

**Упершыню за апошнія гады спыніла сваю вытворчасьць акцыянэрнае таварыства "Дываны Брэста".**

Прычына банальная: ніхто ня хоча купляць іхную прадукцыю, ёю завалены ўсе склады. Раней значная частка дывановых вырабаў ішла ў Расею ў якасьці разьлікаў за энэргарэсурсы. Але цяпер і расейцы адмовіліся ад дываноў, а беларускім спажыўцам яны не па кішэні.

З прычыны немагчымасьці збыць прадукцыю стаіць таксама Берасьцейскі завод бытавой хіміі, часта спыняецца Кобрынская прадзільна-ткацкая фабрыка, прыкладна такая ж сітуацыя і на іншых прадпрыемствах вобласьці.

**Лявон МУХАВЕЦКІ**



## Сёньня

Сяргей ДУБАВЕЦ

# Базавы інстынкт

Ёсьць такое прыкрае адчуваньне, калі праходзіш міма касы ў гастраноме, і цябе як патэнцыйнага злодзея працінае рэнтгенавы позірк кантралёркі. Хоць ты перапрацуйся ў цень, стань невідзімкам, памры тут на месцы! Нічога ня ўзяў, а сорамна. Чаму?

Таму што спрацоўвае базавы беларускі інстынкт.

Станоўчы маральны прынцып — не бяры чужога — у нашым народзе перабольшаны аж да таго, што ператвараецца ў загану. Ня толькі ня браць чужога, але й не спрачацца за яго — чыё яно, а нават і сваё не прызнаваць за сваё. Каб і аддаленага намёку ня ўзьнікла, што я магу на нешта тут прэтэндаваць. Беларус вам нічога ня скажа, але ў сабе такую драму, такога Шэкспіра разыграе, што ня дай Бог. "Ня браў, — кажа ён, — хоць забі".

Пачуцьцё ўласнасьці ў беларуса ня толькі адсутнічае, але ён гатовы аддаць жыцьцё, каб хаця не падумалі, што яно ў яго ёсьць. У гэтым, можа быць, самая істотная прычына таго, што ў нас не атрымліваецца жыць лепей. Бо ўсе рэформы абапіраюцца ў рэшце рэшт на адно — на пачуцьцё гаспадара.

Гэтак выглядае справа з уласнасьцю прыватнай і з уласнасьцю нацыянальнай.

У Лідзе мучаюць свой сярэднявечны замак і ўсё гэтак. Іншыя б ганарыліся, дзяцей вадзілі, турыстам паказвалі. А ў нас сёньня гэты недарэстаўраваны помнік выглядае закінутай навабудоўляй. У толькі што адбудаваных вежах — "прыбіральні", паўсюль цэмэнт, на падворку забытыя матэрыялы. рэштці нейкай тэхнікі... Не кіпіць работа. А чаму? Таму што кожны лідчук ведае, што гэта — літоўскі замак. Беларусам, каб адрэстаўраваць яго з душою, трэба глядзець на яго як на свой, як на ўласнасьць. А гэта — найвялікшая пакута, ломка базавага інстынкту.

Тое самае з мовай, гісторыяй, сымболікай, дзяржаўнасьцю, незалежнасьцю... Калі паўстае праблема — чыё яно, хто дакажа правы ўласнасьці на беларускую мову і дзяржаўнасьць? — беларусы адназначна і дружна адказваюць: ня наша! Абы не западозрылі ў прэтэнзіі. Сорамна, як у тым гастраноме, хоць правалііся.

Тое самае і зь зямлёй. Самі мужыкі супраць таго, каб дзяліць калгасы на прыватныя надзелы, бо кожны тады мусіць удзельнічаць у дзяльбе, прэтэндаваць на ўласнасьць. А інстынкт не дае. Мы лепей памрэм зараз, толькі каб не западозрылі...

І прэзідэнт, кроў ад крыві, плоць ад плоці, інстынкт ад інстынкту свайго народу, увасабляе ў сабе гэты базавы маральны рэфлекс. "Бразаўскас мне гаварыт: ты пачаму, Аляксандар Грыгор'евіч, мой герб узял? А я атвічаю: да ні брал я, ня нужан он мне!" І так ва ўсіх, ва ўсім і паўсюль. Нічога ня бралі, ні на што не прэтэндуем, нічога ня маем і месца ня хочам. Лічыце, што нас як бы і няма ўвогуле. Мы гуляем у мёртвых.

Беларусы маглі б ганарыцца такой адметнасьцю, калі б яна спрыяла нашаму лепшаму жыцьцю. Але ж не. Калі станоўчыя маральныя прынцыпы загнаныя ў мінус, туды ж заганяецца і гаспадарка, і палітыка, і культура. Мы гаворым пра наступствы — ценявую эканоміку, напрыклад, але ўпарта ня хочам заўважаць прычыну: беларусы — ценявая нацыя, ценявы народ, які прагне толькі аднаго: не выяўляцца ў рэальнасьці нічым, нікай маёмасьцю, каб ніхто, крый Божа, не западозрыў, што ў нас ёсьць свая дзяржава.

Нават бальшыня дзеячоў нацыянальнай культуры стараюцца па-за працай гаварыць па-расейску. Прычыны знаходзяць розныя, але прычына адна — такі моцны гэты інстынкт. А тыя, хто пераадолеў яго, перасталі быць ценем, але на агульным тле ценявое нацыі выглядаюць невядома якімі джарданамі брунамі.

Ва ўсёй гэтай сытуацыі ёсьць ключ, якім адмыкаецца наша пачуцьцё ўласнасьці, а значыць, і рэформы. Гэты ключ адразу цяжка заўважыць, таму што ён як бы ў іншай сфэры жыцьця, пра якую наш базавы інстынкт забараняе нам думаць і гаварыць. Гэты ключ — мова.

Парадаксальным чынам менавіта расейская мова трымае беларускі народ у сваім цені і не дае яму выказацца па-свойму, рэалізаваць сябе, раскрыць свой уласны патэнцыял. Яна, сапраўднымі ўладальнікамі якой мы ніколі не былі і ня будзем, стала тою прыладаю, якой беларусы па-мазахісцку глушаць у сабе пачуцьцё гаспадара сваёй мовы, сваёй кішэні, сваёй зямлі, свайго жыцьця.

# Кандыдаты дэмакратычнага блоку

**На выбарах у Вярхоўны Савет (14 траўня) дэмакратычныя партыі, якія ўтварылі адзіны блок разам з БНФ і БСДГ, будуць падтрымліваць гэтых кандыдатаў у дэпутаты.**

## Берасьцейская вобласьць

**Берасьцейская—Заходняя акруга №1.** *Судак Ігар Вечаслававіч,* інжынэр-мэханік, начальнік КТБ завода "Брэстсельмаш", (партыя БНФ).

**Берасьцейская—Цэнтральная акруга №2.** *Грыбко Аляксандар Уладзімеравіч,* загадчык кафедры агульнай геаграфіі Берасьцейскага пэдінстытуту, (БСДГ).

**Берасьцейская—Будаўнічая акруга №3.** *Пракаповіч Мікалай Мікалаевіч,* загадчык аддзела мастацкіх праграм Берасьцейскага абласнога тэлебачаньня, (партыя БНФ).

**Берасьцейская—Заводзкая акруга №4.** *Корнеў Павел Іванавіч,* дацэнт, намесьнік дэкана гістарычнага факультэта Берасьцейскага пэдінстытуту, (БСДГ).

**Берасьцейская—Усходняя акруга №5.** *Базан Уладзімер Сямёнавіч,* мастак Берасьцейскага камбінату "Мастацтва", (партыя БНФ).

**Берасьцейская—Паўднёвая акруга №6.** *Ляўковіч Анатоль Іосіфавіч,* дацэнт катэдры філасофіі Берасьцейскага пэдінстытуту, (БСДГ).

**Берасьцейская—Сельская акруга №7.** *Здановіч Віктар Іванавіч,* урач-траўматолаг бальніцы хуткай дапамогі г.Берасьця, (партыя БНФ).

**Баранавіцкая—Славянская акруга №8.** *Северцаў Мікалай Аляксандравіч,* інжынэр аддзелу зьнешняй камплектацыі Баранавіцкага завода аўтаматычных ліній, (партыя БНФ).

**Баранавіцкая—Усходняя акруга №9.** *Скок Віктар Уладзімеравіч,* інжынэр па арганізацыі і нармаваньні працы аддзелу працы апарату кіраваньня Беларускай гідрагеалагічнай экспэдыцыі, (партыя БНФ). *Блінкоўскі Аркадзь Аляксеевіч,* галоўны інжынэр Беларускай гідрагеалагічнай экспэдыцыі (БСДГ).

**Баранавіцкая—Паўднёвая акруга №10.** *Болбат Вячаслаў Парфеевіч,* дырэктар МП "Багрым", (БСДГ).

**Баранавіцкая—Палеская акруга №11.** *Гоўша Сяргей Канстанцінавіч,* вядучы інжынэр-канструктар Баранавіцкага спэцыяльнага канструктарскага бюро гандлёвага машынабудаваньня, ВА "Беларусьгандальмаш", (партыя БНФ).

**Баранавіцкая сельская №12.** *Даўгіловіч Яўген Сяргеевіч,* радыёмэханік в/ч 36856, (партыя БНФ).

**Бярозаўская акруга №13.** *Крыварот Анатоль Аляксеевіч,* падпалкоўнік запасу, (партыя БНФ).

**Белаазёрская акруга №14.** *Банасевіч Васіль Мікалаевіч,* (беспартыйны).

**Ганцавіцкая акруга №15.** *Дарашэнка Леанід Міхайлавіч,* настаўнік сярэдняй школы №3 г.Ганцавічы, (партыя БНФ).

**Драгічынская акруга №16.** *Леончык-Мельнічук Яўген Уладзімеравіч,* урач-эндакрынолаг Драгічынскай раённай паліклінікі, (партыя БНФ).

**Жабінкаўская акруга №18.** *Хакімава Антаніна Іванаўна,* рэдактар раённай газэты "Сельская праўда", (партыя БНФ).

**Іванаўская акруга №19.** *Прадун Васіль Андрэевіч,* экскаватаршчык Іванаўскага раённага прадпрыемства па матэр'яльна-тэхнічным забесьпячэньні, (партыя БНФ).

**Івацэвіцкая акруга №20.** *Дрык Людміла Андрэеўна,* начальнік бюро тэхнічнай дакумантацыі Івацэвіцкага прыборабудаўнічага завода, (партыя БНФ).

**Косаўская акруга №21.** *Зайко Аляксандр Фаміч,* настаўнік беларускай мовы і літаратуры Запольскай СШ Івацэвіцкага раёну, (партыя БНФ).

**Камянецкая акруга №22.** *Байфалік Расціслаў Іванавіч,* урач-хірург Камянецкага раённага тэрытарыяльна-мэдыцынскага аб'яднаньня, (партыя БНФ).

**Кобрыньская гарадзкая акруга №23.** *Сергіевіч Пётр Васільевіч,* машыніст халадзільна-кампрэсарнай станцыі Кобрыньскай прадзільнай ткацкай фабрыкі, (партыя БНФ).

**Кобрыньская сельская акруга №24.** *Куровіч Сяргей Іванавіч,* токар калгасу "Запаветы Ільіча", (партыя БНФ).

**Лунінецкая акруга №25.** *Туркоўскі Станіслаў Станіслававіч,* загадчык радзільнага аддзяленьня Лунінецкай цэнтральнай раённай бальніцы, (партыя БНФ).

**Дварэцкая акруга №26.** *Замерфельд Іван Кірылавіч,* фрэзэроўшчык ВА "Граніт", (партыя БНФ).

**Ляхавіцкая акруга №27.** *Лобан Ігар Фёдаравіч,* урач-тэрапэўт Ляхавіцкага тэрытарыяльнага мэдыцынскага аб'яднаньня, (партыя БНФ).

**Маларыцкая акруга №28.** *Цунік Павел Цімафеевіч,* рэдактар газэты "Шлях", (партыя БНФ).

**Пінская—Заходняя акруга №29.** *Шатохін Яўген Сяргеевіч,* дырэктар Пінскай дзіцячай школы выяўленчага мастацтва, (партыя БНФ).

**Пінская—Усходняя акруга №30.** *Цішук Пётр Мікалаевіч,* уласны карэспандэнт "Народнай газеты", (БСДГ).

**Пінская—Паўночная акруга №31.** *Ярашук Віктар Цімафеевіч,* выканаўчы дырэктар па Берасьцейскай вобл. Фонду сацыяльных ініцыятыў і дасьледаваньняў імя братоў Луцкевічаў, (БСДГ).

**Лагішынская акруга №32.** *Сярэдзіч Іосіф Паўлавіч,* былы рэдактар "Народнай газеты", (беспартыйны).

**Малатковіцкая акруга №33.** *Казубоўскі Вячаслаў Яўгенавіч,* настаўнік працы Малаткоўскай сярэдняй школы, (партыя БНФ).

**Пружанская акруга №34.** *Несьцерчук Леанід Міхайлавіч,* інспэктар па ахове гісторыка-культурнай спадчыны ўправы культуры Берасьцейскага аблвыканкаму, (партыя БНФ). Сямашка Іван Іванавіч, хірург Пружанскай раённай бальніцы, (БСДГ).

**Ружанская акруга №35.** *Машкала Іосіф Станіслававіч,* настаўнік гісторыі сярэдняй школы №5 г.Пружаны, (партыя БНФ).

**Столінская акруга №36.** *Стаціўка Канстанцін Сяргеевіч,* выкладчык ПТВ-164, (партыя БНФ).

**Давыд-Градоцкая акруга №37.** *Разановіч Анатоль Іванавіч,* настаўнік ангельскай мовы сярэдняй школы №3 р.п.Рэчыцы, (партыя БНФ). *Знавец Павел Кірылавіч,* выкладчык БДУ, (БСДГ).

## Віцебская вобласьць

**Аршанская сельская акруга №38.** *Дураў Генадзь Фёдаравіч,* будаўнік калгасу імя Заслонава Аршанскага раёну, (партыя БНФ).

**Браслаўская акруга №40.** *Шыдлоўскі Канстанцін Сяргеевіч,* навуковы супрацоўнік Браслаўскага гісторыка-краязнаўчага музэя, (партыя БНФ).

**Верхнядзьвінская акруга №41.** *Запольскі Аляксандар Апанасавіч,* дырэктар Верхнядзьвінскага АТ "Міла", (БСДГ).

**Глыбоцкая акруга №43.** *Цуран Людміла Леанідаўна,* настаўніца матэматыкі сярэдняй школы №2 г.Глыбокае, (партыя БНФ).

**Гарадоцкая акруга №44.** *Гаравы Леанід Анатольевіч,* настаўнік Вархоўскай БШ, (БСДГ).

**Докшыцкая акруга №45.** *Мядзюха Уладзімер Міхайлавіч,* настаўнік замежнай мовы Докшыцкай СШ №1, (партыя БНФ).

**Дубровенская акруга №46.** *Міхальчанка Мікалай Іванавіч,* фэрмэр, (БСП).

**Лёзьненская акруга №47.** *Букачоў Анатоль Мікалаевіч,* рэдактара аддзелу газэты "Выбар", (партыя БНФ).

**Мёрская акруга №48.** *Матэлёнак Анатоль Мікалаевіч,* старшыня калгасу імя Кірава, (БСДГ).

**Пастаўская акруга №49.** *Гучык Генадзь Сямёнавіч,* загадчык аддзяленьня Пастаўскай цэнтральнай раённай бальніцы, (БСДГ).

**Полацкая сельская акруга №50.** *Гаравы Леанід Трафімавіч,* дырэктар базы адпачынку "Шчаты", (БСП).

**Ушацкая акруга №53.** *Хвошч Уладзімер Іванавіч,* старшыня Ушацкага райсавету, (БСДГ).

**Чашніцкая акруга №54.** *Іваноў Аляксандар Сяргеевіч,* інжынэр па тэхніцы бясьпекі Навалукомльскага завода аб'ёмнага домабудаваньня, (партыя БНФ).

**Шаркаўшчынская акруга №55.** *Сіняўскі Уладзімер Уладзімеравіч,* намесьнік дырэктара па выхаваўчай рабоце Вялікасельскай сярэдняй школы, (партыя БНФ).

**Шумілінская акруга №56.** *Бурлакоў Пётр Вітальевіч,* падпалкоўнік у адстаўцы, (БСП).

**Аршанская—Заходняя акруга №57.** *Карэтнікаў Віктар Уладзімеравіч,* настаўнік, кіраўнік шахматных гурткоў Цэнтра дзіцячай творчасьці г.Воршы, (партыя БНФ).

**Аршанская—Цэнтральная акруга №58.** *Леонцьеў Леанід Леанідавіч,* урач-эпідэміёлаг Аршанскага гарадзкога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, (партыя БНФ).

**Аршанская—Задняпроўская акруга** №59. *Санько Юрый Фёдаравіч,* выкладчык беларускай літаратуры ПТВ-45 г.Воршы, (партыя БНФ).

**Віцебская—Гагарынская акруга №60.** *Жэлябаў Хрыстафор Савелавіч,* выкладчык Віцебскай музычнай школы, (БХДП).

**Віцебская—Горкаўская акруга №61.** *Цішкін Ігар Анатольевіч,* археолага МП "Віцебскпраектрэстаўрацыя", (партыя БНФ). *Дубавец Уладзімер Рыгоравіч,* галава фэрмэрскай гаспадаркі "Дубаўцова", (БСДГ).

**Віцебская—Першамайская акруга №62.** *Гаўруцікаў Аляксей Аляксандравіч,* інжынэр Віцебскага тэлезавода, (БСДГ).

**Віцебская—Праўдзінская акруга №63.** *Сарапеня Павал Сямёнавіч,* настаўнік выяўленчага мастацтва сярэдняй школы №25 г.Віцебска, (партыя БНФ).

**Віцебская—Усходняя акруга №64.** *Шалухін Васіль Пятровіч,* інжынэр па тэхнічным наглядзе аддзела капітальнага будаўніцтва Віцебскага прадпрыемства кацельных і цеплавых сетак, (партыя БНФ).

**Віцебская—Цэнтральная акруга №65.** *Бугаёў Аляксандар Уладзімеравіч,* кіраўнік аўдытарскай фірмы "Альбаросія", (БСДГ).

**Віцебская—Чарняхоўская акруга №66.** *Высоцкі Юрый Іванавіч,* дырэктар батанічнага сада Віцебскага пэдінстытута, (партыя БНФ).

**Віцебская—Чкалаўская акруга №67.** *Мудрычэнка Аляксандар Аляксандравіч,* дырэктар малога камэрцыйнага прадпрыемства вытворча-камэрцыйнай фірмы "Амега", (партыя БНФ).

**Віцебская—Чыгуначная акруга №68.** *Белаус Вячаслаў Канстанцінавіч,* настаўнік гісторыі Рубаўскай СШ г.Віцебска, (партыя БНФ).

**Наваполацкая—Маладзёжная акруга №70.** *Кулік Анатоль Міхайлавіч,* мэханік цэха ВА "Палімір", (партыя БНФ).

**Наваполацкая—Юбілейная №72.** *Какоўка Віктар Фёдаравіч,* дэпутат ВС, (БСДГ).

**Полацкая—Задвінская акруга №73.** *Цялежнікаў Уладзімер Іванавіч,* дэпутат ВС РБ, (беспартыйны).

**Полацкая—Цэнтральная акруга №74.** *Ганчарэнка Мікалай Уладзімеравіч,* сьлесар-рамонтнік ВА "Шкловалакно", (партыя БНФ).

## Гарадзенская вобласьць

**Астравецкая акруга №115.** *Баўсюк Мікалай Іосіфавіч,* памочнік-сакратар народнага дэпутата ВС М.М.Маркевіча, (партыя БНФ).

**Ашмянская акруга №116.** *Міхайлоўская Данута Канстанцінаўна,* настаўніца матэматыкі, (партыя БНФ).

**Бераставіцкая—Індурская акруга №117.** *Кохна Віктар Віктаравіч,* намесьнік дырэктара па гаспадарчых справах Капцёўскай сярэдняй школы, (партыя БНФ).

**Ваўкавыская гарадзкая акруга №118.** *Аксаміт Мікалай Уладзімеравіч,* дэпутат ВС РБ, (БСДГ).

**Ваўкавыская сельская акруга №119.** *Ешчык Міхаіл Мікалаевіч,* інжынэр-наладчык спэцыялізаванага вытворчага рамонтна-тэхнічнага ўпраўленьня "Медык", (партыя БНФ).

**Воранаўская акруга №120.** *Жулега Анатоль Трафімавіч,* нам. дырэктара экспэрымэнтальнай базы "Кастрычнік" Воранаўскага раёну, (партыя БНФ).

**Гарадзенская—Болдзінская акруга №121.** *Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч,* прафэсар, (БСДГ).

**Гарадзенская—Горкаўская акруга №122.** *Мальчык Сяргей Сьцяпанавіч,* дацэнт катэдры паталагічнай фізіялогіі Гарадзенскага мэдінстытуту, (партыя БНФ).

**Гарадзенская—Дзяржынская акруга №123.** *Задаля Валерый Сьцяпанавіч,* нам. старшыні аблтэлерадыёаб'яднаньня, (партыя БНФ).

**Гарадзенская—Пралетарская акруга №124.** *Жынь Канстанцін Уладзімеравіч,* начальнік аддзелу капітальнага будаўніцтва ВА "Гродназнерга", (партыя БНФ).

**Гарадзенская—Прынёманская акруга №125.** Маркевіч Мікалай Мікалаевіч, рэдактар газэты "Пагоня", (партыя БНФ).

**Гарадзенская—Сувораўская акруга №126.** *Патрэба Міхась Сьцяпанавіч,* выкладчык Гарадзенскага ўнівэрсітэту імя Я.Купалы, (БСДГ).

**Гарадзенская сельская акруга №127.** *Гавін Тадэвуш Фэліксавіч,* старшыня Саюзу палякаў Беларусі, (беспартыйны).

**Скідальская акруга №128.** *Барысевіч Аляксандар Аляксандравіч,* дырэктар Абухоўскай цэнтралізаванай клубнай сістэмы, (партыя БНФ).

**Дзятлаўская акруга №129.** *Петрыкевіч Валерый Міхайлавіч,* настаўнік СШ №3, (БСДГ).

**Зэльвенская акруга №130.** *Бандык Сяргей Сяргеевіч,* беспрацоўны, (партыя БНФ).

**Івейская акруга №131.** *Келдановіч Леанід Іосіфавіч,* кіраўнік сялянскай гаспадаркі №71, (партыя БНФ).

**Карэліцкая акруга №132.** *Харута Уладзімер Пятровіч,* электрык-акумулятаршчык калгаса "Мірскі" Карэліцкага раёну, (партыя БНФ).

**Лідзкая—Чырвонаармейская акруга №133.** *Лазарэвіч Сяргей Пятровіч,* прадпрымальнік, (партыя БНФ).

**Лідзкая—Камсамольская акруга №134.** *Суднік Станіслаў Вацлававіч,* карэспандэнт газэты "Пагоня", (партыя БНФ).

**Лідзкая сельская акруга №135.** *Клімовіч Уладзімер Аркадзьевіч,* пісьменьнік, (БСДГ).

**Мастоўская акруга №136.** *Палубятка Іосіф Іосіфавіч,* інжынэр МГС раённага вузла, (БСДГ).

**Навагрудзкая гарадзкая акруга №137.** *Макарчык Віталь Лаўрэнцьевіч,* урач-хірург Навагрудзкага тэрытарыяльнага мэдыцынскага аб'яднаньня, (партыя БНФ).

**Навагрудзкая сельская акруга №138.** *Война Яўген Іванавіч,* настаўнік фізікі і матэматыкі Шчарсоўскай сярэдняй школы, (партыя БНФ).

**Сьвіслацкая акруга №139.** *Дзікевіч Аляксандар Пятровіч,* галоўны аграном саўгасу Вердамічы, (партыя БНФ).

**Слонімская—Савецкая акруга №140.** *Варвашэвіч Мікалай Фёдаравіч,* дырэктар і мастацкі кіраўнік Драматычнага тэатра, (БСДГ).

**Слонімская—Чырвонаармейская акруга №141.** *Якімовіч Аляксей Мікалаевіч,* настаўнік Касьцянёўскай школы Слонімскага раёну, (партыя БНФ).

**Смаргонская гарадзкая акруга №142.** *Дзяргачоў Аляксандар Мартынавіч,* юрыстконсульт Будаўнічага прадпрыемства-фірмы "Гонар", (партыя БНФ). *Вештард Ірына Зянонаўна,* інспэктар ГарАНА, (БСДГ).

**Смаргонская сельская акруга №143.** *Лявіцкі Ягор Вацлававіч,* галоўны юрысконсульт ВА "Смаргонскі завод аптычнага станкабудаваньня", (партыя БНФ).

**Шчучынская акруга №144.** *Кіенка Генадзь Паўлавіч,* інжынэр-электрык, (партыя БНФ).

## Гомельская вобласьць

**Гомельская—Юбілейная акруга №76.** *Дрозд Адам Іосіфавіч,* інжынэр Гомельскай лесаўпарадкавальнай экспэдыцыі, (партыя БНФ).

**Гомельская—Чырвонакастрычніцкая акруга №77.** *Раманенка Тацьцяна Іванаўна,* вядучы эканаміст завода самаходных камбайнаў ВА "Гомсельмаш", (партыя БНФ).

**Гомельская—Заводзкая акруга №79.** *Раманаў Васіль Васільевіч,* урач-уролаг паліклінікі тэрытарыяльнага мэдыцынскага аб'яднаньня №1 г.Гомеля, (партыя БНФ).

**Гомельская—Навабеліцкая акруга №80.** *Башлакова-Нікалаева Валянціна Аляксееўна,* настаўніца СШ №15 г.Гомеля, (партыя БНФ).

**Гомельская—Пушкінская акруга №85.** *Ханеня Сяргей Іванавіч,* асістэнт катэдры псіхалагічнай дыягностыкі і падрыхтоўкі ў ВНУ Гомельскага ўнівэрсітэту, (партыя БНФ).

**Гомельская—Цэнтральная акруга №86.** *Старчанка Уладзімер Мікалаевіч,* дацэнт катэдры тэорыі і мэтодыкі фізічнай культуры Гомельскага ўнівэрсітэту, (партыя БНФ).

**Маркавіцкая акруга №88.** *Казанцава Ганрыета Міхайлаўна,* асістэнтка катэдры гісталогіі Гомельскага мэдінстытута, (партыя БНФ).

**Хойніцкая—Брагінская акруга №89.** *Бяляўскі Аляксандар Мікалаевіч,* старшы інжынэр бюро матэр'яльна-тэхнічнага забесьпячэньня і збыту завода гадраапаратуры, (партыя БНФ).

**Буда-кашалёўская акруга №90.** *Парошын Аляксандар Дзьмітравіч,* фэрмэр, (БСП).

**Веткаўская акруга №91.** *Захарэнка Юрый Віктаравіч,* рабочы Гомельскага завода "Крышталь", (партыя БНФ).

**Жлобінская—Сельская акруга №95.** *Радзівановіч Мікалай Мікалаевіч,* фэрмэр, (БСДГ).

*Заканчэньне сьпісу на стар. 6*

**Перадвыбарчая эканамічная платформа Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"**

# Народны Фронт за незалежнасьць,

## Асноўныя кірункі рэформаў для выхаду з крызісу*

### Крытычны стан эканомікі

Вытворчасьць валавага ўнутранага прадукту за 1994 г. у параўнаньні з папярэднім скарацілася на 20%. Прадукцыя ***прамысловасьці*** зьменшылася на 19,3%. Пастаянны тэндэнцыяй зьяўляецца рэзкае зьніжэньне аб'ёмаў вытворчасьці у галоўных экспартных галінах. Так, у 1994 г. аб'ём вытворчасьці грузавых аўтамабіляў скараціўся на 31%, трактараў — на 48%, мэталарэзных станкоў — на 39%.

Вытворчасьць ***сельскай гаспадаркі*** скарацілася на 14,1%. На 18% зьменшыўся выпуск каўбасных вырабаў, на 16% — масла. У параўнаньні з 1990 г. зьніжэньне ўраджайнасьці сельскагаспадарчых культураў у 1,5—2 разы (збожжавых з 36 да 23 ц/га, бульбы — з 182 да 90 ц/га), скарачэньне пасяўных плошчаў і вялікія страты пры захоўваньні прадукцыі прывялі да рэзкага пагаршэньня забесьпячэньня насельніцтва прадуктамі.

У 1994 г. на душу насельніцтва ў грамадзкім сэктары выпрадукавана 600 кг збожжа, каля 600 кг бульбы, прыкладна 75 кг гародніны, менш за 44 кг садавіны. Яшчэ горшая сітуацыя ў жывёлагадоўлі. Пагалоўе буйной рагатай жывёлы зьменшылася на 1,7 млн. галоваў, сьвіньняў амаль на 1,2 млн. галоваў, авечак у 4 разы. З прычыны зьніжэньня прадукцыйнасьці жывёлы вытворчасьць малака і мяса ў разьліку на аднаго жыхара зьменшылася ў 2 разы і склала адпаведна 360 і 52 кг. У цэлым забясьпечанасьць насельніцтва асноўнымі прадуктамі харчаваньня вагалася ў межах 76—85% ад нормы.

Аб'ём ***капіталаўкладаў*** у фактычных цэнах скараціўся за 1994 г. (у параўнаньні з 1993 г.) на 25%. Капіталаўклады вытворчага прызначэньня за гэты пэрыяд скараціліся на 31%, невытворчага прызначэньня — на 27%, у тым ліку на будаўніча-мантажныя работы — на 28%. На 17% зьменшылася дзяржаўнае жыльлёвае будаўніцтва, будаўніцтва жыльлёва-будаўнічымі кааператывамі — на 27%, а ў калгасах удвая. На пачатак бягучага года больш за 21 тысячу аб'ектаў знаходзяцца ў незавершаным будаўніцтве, 1800 — законсэрваваныя.

Выпуск ***тавараў народнага спажываньня*** за гэты ж пэрыяд скараціўся на 16%, аб'ём платных паслугаў насельніцтву ў супастаўных цэнах — на 14%, увод у дзеяньне жылых дамоў — на 15%.

Зьмяняецца ***структура грашовых даходаў*** насельніцтва. Так, у чацьвёртым квартале 1994 г. доля аплаты працы ў сямейных бюджэтах складала 37%, што значна ніжэй, чым у нашых суседзяў. Зьмяншэньне долі заробтнай платы сьведчыць ня толькі пра аслабленьне матывацыі да працы, але і пра тое, што эканамічна актыўнае насельніцтва ня можа рэалізаваць свой патэнцыял на месцы асноўнай працы і вымушана дзьве трэці сямейнага бюджэту папаўняць у сфэры "ценевай" эканомікі. ***Уклады насельніцтва*** ў ашчадныя і камэрцыйныя банкі склалі 104 млрд. рублёў, што ў даляравым эквіваленце роўна 90 цэнтам у разьліку на аднаго жыхара краіны.

Пагоршыўся ***фінансавы стан вытворчасьці.*** Крэдытная (дэбіторская) запазычанасьць вытворцаў склала летась 19,4 трлн. рублёў. Камэрцыйныя банкі амаль ня ўдзельнічаюць ва ўзнаўленчым працэсе прамысловасьці і сельскагаспадарчай вытворчасьці. Доўгатэрміновыя крэдыты склалі толькі 8,3% усяго аб'ёму крэдытаваньня.

Дэстабілізацыйным фактарам эканомікі на працягу года была ***інфляцыя.*** Намінальная заробная плата за 1994 г. узрасла ў 15,8 разоў, а цэны на спажывецкія тавары ў 23,2 разы. У выніку рэальная заробная плата скарацілася да 68% да леташняга ўзроўню. Спажывецкія цэны за студзень 1995 г. вырасьлі на 39,2%, у тым ліку на харчовыя тавары на 40,7%, на нехарчовыя — на 31,0%, на паслугі — на 45,5%.

Расьце ***беспрацоўе.*** На канец 1994 г. лік афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных перасягнуў 102 тыс. чалавек. Да таго ж страты рабочага часу з-за прастояў склалі летась 25 мільёнаў чалавека-дзён або 137 тыс. гадавых рабочых месцаў. З улікам схаваных формаў беспрацоўе дасягнула 25% ад усіх занятых.

Зьбядненьне народу абумовіла ***скарачэньне насельніцтва*** краіны. У 1994 г. колькасьць народжаных зьменшылася на 4% і склала 113 тыс., а лік памёрлых павялічыўся на 0,7% да 129 тыс. чалавек і перавысіў колькасьць народжаных на 16 тыс. чалавек.

Паводле прагнозу экспэртаў, ***спад вытворчасьці*** сёлета дасягне 15—20% ад узроўню 1994 г.

***Прадпрымальніцтва*** надалей застаецца "іншародным целам" для беларускай эканомікі. Перадусім надалей захоўваецца нераўнапраўнае становішча недзяржаўных гаспадарчых суб'ектаў.

На станаўленьне і развіцьцё прадпрымальніцтва адмоўна ўплывае ***нявырашанасьць праблемы прыватнай уласнасьці.*** Практычна ўся ўласнасьць належыць дзяржаве.

Інфляцыя вядзе да нявызначанасьці сапраўднага фінансавага стану прадпрымальніка. Праблема спараджае надзвычайны ***падаткавы прэс,*** частая зьмена законаў і нарматыўных актаў, недакладнасьць інструкцыяў, паўсюдная карумпаванасьць чыноўніцтва.

***Умовы для станаўленьня прадпрымальніцтва ў Беларусі можна ацаніць як надзвычай неспрыяльныя.***

**Адсутнасьць рэформаў, імкненьне захаваць загадна-адміністрацыйную сістэму кіраваньня як пры папярэдняй адміністрацыі В.Кебіча, так і пры сучасным кіраўніцтве А.Лукашэнкі абумоўліваюць паглыбленьне і пашырэньне эканамічнага крызісу.**

### Прычына крызісу эканомікі

Дзяржаўная адміністрацыя засьведчыла свой ***непатрыятызм і непрафэсіяналізм.*** Прэзідэнт і ягоны ўрад, а таксама залежная ад іх большасьць Вярхоўнага Савету сьвядома не жадаюць праводзіць самастойную эканамічную палітыку незалежнай дзяржавы ў інтарэсах яе народу.

Адсутнічаюць мэта і праграма пераводу народнай гаспадаркі на іншыя прынцыпы і спосабы вытворчасьці, заснаваныя на свабоднай рынкавай эканоміцы.

У краіне ня вызначаныя і ***не адрэгуляваныя базавыя дачыненьні ўласнасьці.*** Не разьдзеленыя функцыі валоданьня, кіраваньня і карыстаньня маёмасьцю. Пры гэтым чалавек аказаўся адчужаным ад уласнасьці і ад вынікаў сваёй працы.

Структура вытворчасьці не прыстасаваная да ўмоваў краіны. Прадукцыя надзвычай энэрга- і матар'ялаёмістая.

Мэтады адміністрацыйнага рэгуляваньня эканамічнай дзейнасьці засьведчылі сваю неэфэктыўнасьць. Гэта выразілася:

— у пасьлядоўным ***разбурэньні грашовай і крэдытна-фінансавай сістэмы;***

— у ***недасканаласьці падаткавай сістэмы,*** якая не захоўвае стваральную дзейнасьць і не спрыяе падвышэньню фондааддачы сродкаў вытворчасьці;

— у ***разбуральнай цэнавай палітыцы,*** якая паразітуе на вытворцах (асабліва сельскагаспадарчай прадукцыі);

— у ***недасканаласьці бюджэтнай палітыкі,*** якая не дала нашай краіне магчымасьці выкарыстоўваць выгаднае геаграфічнае становішча і атрымліваць дадатковы даход ад платы за транзіт каля 2 млрд. даляраў у год (яшчэ адзін наш дадатковы бюджэт);

— у ***недасканаласьці інвэстыцыйнай і амартызацыйнай палітыкі,*** якая прывяла да таго, што прадукцыйныя сілы ўжо ня здольныя забясьпечыць пашыранае ўзнаўленьне асноўнага і абаротнага капіталу. Фізічная зношанасьць асноўных фондаў большасьці галінаў вытворчасьці перасягнула 50%, а на асобных прадпрыемствах — ад 70% і больш пры аднаўляльнасьці 2%. Маральная ж зношанасьць асноўных вытворчых фондаў амаль ва ўсіх галінах перасягнула 100%.

— у ***адсутнасьці маральнай палітыкі*** ў прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці, у недасканаласьці і неэфэктыўнасьці формаў прыватызацыі, у бескантрольным раскраданьні дзяржаўных сродкаў і маёмасьці.

***Зьнешнеэканамічная дзейнасьць*** стратная: даходы ад яе не перавышаюць выдаткаваных на яе сродкаў. Адсутнічае дзяржаўны кантроль за ўцечкай капіталу, якая стала хранічнай для эканомікі краіны.

### Выйсьце з крызісу

Выйсьце з крызісу можа быць пасьпяховым толькі пры дакладным вызначэньні мэтаў і прынцыпаў, зь якіх павінна зыходзіць эканамічная палітыка краіны. Яна павінна арыентавацца на ***ўзаемавыгадныя эканамічныя дачыненьні з усімі партнэрамі*** — як на усходзе, так і на захадзе, як на поўдні, так і на поўначы. Гэта — адна з умоваў рэалізацыі на практыцы незалежнай дзяржавы.

Незалежная палітыка мае на ўвазе распрацоўку і ажыцьцяўленьне канцэпцыі нацыянальнай бясьпекі краіны. Яна павінна прадугледжваць як зьнешнюю, так і ўнутраную бясьпеку. Унутраная бясьпека неадрыўная ад пасьпяховага правядзеньня рэформаў. Для гэтага неабходныя:

— кардынальная рэформа палітычнай сістэмы і сістэмы органаў выканаўчай улады;

— спрашчэньне адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу дзяржавы і рэформы сістэмы мясцовага самакіраваньня;

— набліжэньне заканадаўства да ўзроўню краін, якія дасягнулі найбольшых посьпехаў у сацыяльна-эканамічным развіцьці;

— максімальнае выкарыстаньне вытворчага, эканамічнага, навукова-тэхнічнага патэнцыялу і геапалітычнага становішча краіны;

— рэструктурызацыя фінансава-бюджэтнай сістэмы, якая прадугледжвае ўвод нацыянальнай валюты, разьдзяленьне дзяржаўнага бюджэту і бюджэтаў мясцовых узроўняў улады, зьмену мэтадалогіі фармаваньня бюджэтаў у бок збалансаваньня расходнай і даходнай частак;

— фармаваньне новай падаткавай сістэмы і зьмена падаткавай палітыкі зь фіскальнай на стымуляцыйную;

— развіцьцё банкаўскага заканадаўства і банкаўскай сістэмы; падвышэньне статусу Нацыянальнага банку да самастойнага суб'екта, незалежнага ад выканаўчай і заканадаўчай улады;

— паскоранае стварэньне інфраструктуры рынкаў;

— дзяржаўнае рэгуляваньне эканомікі на аснове эканамічных рычагоў узьдзеяньня і шляхам пераняседзньня акцэнту з адміністрацыйнага планаваньня на індыкатыўнае;

— адмова ад якіх бы ні было спробаў аб'яднаньня з грашовымі сістэмамі іншых дзяржаваў:

— правядзеньне структурнай і інвэстыцыйнай палітыкі, скіраванай на зьмяншэньне энэрга- і матэр'ялаёмістасьці з арыентацыяй на платаздольныя рынкі збыту;

— рашучыя захады для паскарэньня працэсу прыватызацыі;

— рацыянальная зямельная і аграрная рэформа ў інтарэсах грамадзян краіны;

— фармаваньне самастойнай навуковатэхнічнай палітыкі, якое мае на ўвазе пераарыентацыю як прыкладной, так і фундамэнтальнай навукі пераважна ў бок грамадзянскіх галін вытворчасьці, якія маюць платаздольны попыт;

— актыўная палітыка сацыяльнай абароны, якая ўключае стварэньне новых рацыянальных рабочых месцаў для працаздольных і адрасную сацыяльную дапамогу з боку дзяржавы для пэнсіянэраў, інвалідаў і іншых сацыяльна неабароненых катэгорыяў насельніцтва;

— рэформы пэнсійнай справы, аховы здароўя, сярэдняй, сярэдняй спэцыяльнай і вышэйшай адукацыі, скіраваныя на пэрсаніфікацыю інтарэсаў канкрэтнага чалавека і зьмяншэньне ўплыву на яго з боку бюракратыі;

— рэформа Узброеных Сілаў, органаў унутраных справаў і органаў бясьпекі, скіраваныя на забесьпячэньне інтарэсаў незалежнай дзяржавы;

— эфэктыўная зьнешнеэканамічная палітыка, скіраваная як на захаваньне традыцыйных, так і на здабыцьцё і пашырэньне новых рынкаў.

### Нацыянальная валюта

Пагаршэньне сацыяльна-эканамічнай сітуацыі прыводзіць да неабходнасьці ўвядзеньня нацыянальнай валюты — радыкальнага і адзіна магчымага сродку санацыі нацыянальных фінансаў. Пры гэтым часу на стабілізацыю цяперашняга законнага платнага сродку — беларускага рубля — ужо не засталося. Ліміт часу, дадзенага нам гісторыяй, бяздарна згублены ўрадам В.Кебіча і адміністрацыяй А.Лукашэнкі. Застаецца класічны эрхардаўскі варыянт грашовай рэформы як аднамомантнай акцыі паводле прынцыпу "валютнага камітэту".

У якасьці валюты-арыенціра найлепш можа выступаць эўрапейскай грашовая адзінка — ЭКЮ. Мінімальныя ваганьні гэтай валюты дазваляюць праводзіць больш дакладную макраэканамічную палітыку і мінімізаваць магчымы вонкавы націск на нацыянальную фінансавую палітыку.

### Сацыяльная абарона насельніцтва

Новая бюджэтная палітыка дазволіць праводзіць актыўную і адрасную сацыяльную палітыку, скіраваную на падтрымку неабароненых катэгорыяў насельніцтва за кошт сродкаў дзяржаўнага і мясцовых бюджэтаў, пры агульным кірунку на стварэньне новых рацыянальных працоўных месцаў для працаздольных.

Будзе ажыцьцяўляцца новая палітыка заробнай платы і даходаў для работнікаў дзяржаўнага сэктару эканомікі і бюджэтных установаў, заснаваная на прынцыпе роўнай аплаты пры аднолькавай кваліфікацыі, якасьці і інтэнсіўнасьці працы.

Дзяржаўны доўг, працэдуры яго фармаваньня і крыніцы пагашэньня павінны быць заканадаўча афармленыя. На дзяржаўны доўг будуць аднесеныя кампэнсацыі ўкладаў насельніцтва, жыльлёва-будаўнічых каапэратываў, пэнсійнага фонду.

Пагашэньне запазычанасьці дзяржавы перад грамадзянамі будзе адбывацца за кошт сродкаў ад прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці, а таксама за кошт нерухомай маёмасьці.

Дзяржава будзе праводзіць дзейсную дэмаграфічную палітыку, скіраваную на падтрымку жанчын, дзяцей, маладых сем'яў. Жыльлёвая палітыка будзе зарыентаваная пераважна на будаўніцтва індывідуальнага жыльля з выкарыстаньнем дзяржаўных сродкаў для стварэньня інжынэрнай інфраструктуры. Для забесьпячэньня фінансавых магчымасьцяў такога будаўніцтва будуць створаныя іпатэчныя фінансавыя інстытуты.

Будзе ажыцьцяўляцца фінансаваньне адраджэньня культуры, развіцьцё навукі, адукацыі, аховы здароўя.

Міграцыйная палітыка будзе весьціся выключна ў інтарэсах грамадзян нашай дзяржавы.

### Экалогія

**Наступствы Чарнобыля — рэальнасьць нашага жыцьця на доўгі час,** таму дзейнасьць дзяржаўных органаў будзе будавацца з улікам неабходнасьці аховы здароўя людзей.

У заканадаўства краіны будуць уведзеныя палажэньні, скіраваныя на дакладнае выкананьне нормаў экалагічнай бясьпекі.

Будзе створана надзейная сістэма экалагічнага кантролю за станам навакольнага асяродзьдзя і прадуктаў харчаваньня. Па ўсёй тэрыторыі Беларусі будзе праведзены маніторынг на забруджанасьць радыёнуклідамі, цяжкімі мэталамі, рэшткавымі пэстыцыдамі і гербіцыдамі, адыходамі хімічнай вытворчасьці. Будуць зьнятыя пошліны на ўвоз у Беларусь экалагічна чыстых прадуктаў.

Праграма мінімізацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы будзе перагледжана. Будуць спыненыя ўсе непатрэбныя працы па дэзактывацыі тэрыторыяў і вядзеньне ў забруджаных зонах сельскагаспадарчых працаў, якія толькі спрыяюць разносу радыёактыўнага "бруду" і бессэнсоўна марнуюць грашовыя сродкі. Ліквідуюцца ўсе бюракратычныя надбудовы, якія ператварылі нацыянальную бяду ў спосаб асабістай нажывы.

**Праблемы, зьвязаныя зь бясьпекай пражываньня людзей, будуць вырашацца ў першачарговым парадку.**

* **Прапануе Грамадзкі (Ценевы) Кабінэт міністраў Беларускага Народнага Фронту. Платформу распрацавалі: А.Станкевіч, У.Тарасаў, І.Нікітчанка, У.Кулажанка, Л.Зданевіч, С.Гусак, Ю.Беленькі, М.Крыжаноўскі, В.Масквіч, С.Папкоў. Кіраўнік Кабінэту міністраў З.Пазьняк, прэм'ер-міністар Кабінэту У.Заблоцкі.**

# дэмакратыю і рынак

## Прыватызацыя індустрыі

Мэханізм разьдзяржаўленьня і прыватызацыі павінен грунтавацца на наступных зыходных пасылках:

— пры правядзеньні прыватызацыі прыярытэты павінны быць аддадзеныя ня толькі працоўным калектывам, але і адказным інвэстарам, якія змогуць рацыянальна распарадзіцца ўласнасьцю прадпрыемства. Належыць выкарыстоўваць як цэнтралізаваную (праз адпаведныя дзяржаўныя органы прыватызацыі), гэтак і дэцэнтралізаваную (калі самі працоўныя калектывы выбіраюць мэтад правядзеньня прыватызацыі) стратэгіі;

— належыць забараніць выкарыстаньне прыватызацыйных сродкаў для датацыяў, фінансавай падтрымкі нерэнтабэльных прадпрыемстваў;

— адной з крыніцаў рэсурсаў, неабходных для буйных структурных пераўтварэньняў, павінен быць замежны капітал. Прыцягненьне замежнага капіталу павінна быць не выпадковым, а засноўвацца на сацыяльна-палітычнай стабільнасьці дзяржавы і на навукова абгрунтаванай праграме. У якасьці формаў прыцягненьня замежнага капіталу могуць выкарыстоўвацца крэдыты, частковы або поўны продаж акцыяў ужо дзейнага аб'екту, стварэньне сумесных або цалкам замежных прадпрыемстваў;

— у прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў неабходна выкарыстоўваць шырокі арсэнал спосабаў: публічны продаж акцыяў, выкуп прадпрыемства, перадачу ў карыстаньне (арэнда, траст, лізінг і г.д.), падзел ці фрагмэнтацыю прадпрыемства. Выбар спосабу ці формы прыватызацыі залежыць ад аб'екту прыватызацыі і праблемаў, якія пры гэтым вырашаюцца;

— дзеля падвышэньня эфэктыўнасьці і гнуткасьці правядзеньня прыватызацыі належыць дазволіць, па жаданьні працоўнага калектыву, прыватызацыю любога структурнага падразьдзяленьня прадпрыемства (цэха, участка і пад.);

— прыватызацыя павінна праводзіцца сукупна зь іншымі захадамі: дэманапалізацыяй і разьвіцьцём канкурэнцыі, структурнай перабудовай эканомікі і рэструктурызацыяй прадпрыемстваў, аздараўленьнем фінансава-крэдытнай і падатковай сістэмы і санацыяй фінансаў прадпрыемстваў. Без сістэмнага падыходу да прыватызацыі яна можа стаць магутным дэстабілізацыйным фактарам у грамадзка-палітычным жыцьці краіны.

## Рэструктурызацыя індустрыі

У цяперашніх эканамічных умовах, якія створаны ў Беларусі, немагчыма рэалізаваць буйнамаштабныя праграмы структурных пераўтварэньняў вытворчасьці, асабліва ў канкрэтных галінах. Мэтазгодна распрацоўваць асобныя праекты рэструктурызацыі вытворчасьці дзяржаўных прадпрыемстваў, у тым ліку прадпрыемстваў ВПК, стварэньне новых вытворчасьцяў.

Найважнейшы кірунак эканамічнай палітыкі — утрыманьне капіталу ў краіне, бо вельмі часта рэсурсы беларускіх прадпрыемстваў працуюць на эканоміку іншых дзяржаваў. Таму неабходна:

— зьмяніць прынцыпы і формы ўдзелу бюджэтных сродкаў у фінансаваньні праектаў структурнай перабудовы эканомікі (зваротнасьць, акупнасьць, эфэктыўнасьць, сумеснае фінансаваньне і крэдытаваньне);

— перайсьці ад поўнага бюджэтнага фінансаваньня праектаў структурнай перабудовы вытворчасьці да пераважна долевага ўдзелу ў іхным ажыцьцяўленьні, пераход на самафінансаваньне прадпрыемстваў;

— перайсьці да сусьветна прынятых мэтадаў ацэнкі эфэктыўнасьці інвэстыцыяў і да незалежнай экспэртызы інвэстыцыйных праектаў;

— пачаць каардынацыю інвэстыцыйных кірункаў мэтадамі, прынятымі ў рынкавай эканоміцы (падаткі, амартызацыя, крэдыты);

— зьмяніць пераважнае інвэставаньне разьвіцьця эканомікі манапольнага тыпу на інвэстыцыйную падтрымку вытворчасьцяў, якія забясьпечваюць пашырэньне канкурэнцыйных рынкавых дачыненьняў;

— перайсьці да пераважнага інвэставаньня і льготнага фінансаваньня распрацовак і ўкараненьня перадавых тэхналогіяў, а таксама вытворчасьцяў, якія забясьпечваюць распаўсюджаньне такіх тэхналогіяў.

## Стратэгія разьвіцьця паліўна-энэргетычнага комплексу

Паліўна-энэргетычны крызіс выкліканы аднабаковай арыентацыяй на закупку энэрганосьбітаў і катастрафічным падзеньнем здабычы нафты ў Расеі.

Так, паводле падпісаных пагадненьняў, у 1995 г. Расея зможа прадаць Беларусі толькі 10 млн.т нафты, а патрэбы Беларусі з улікам наяўных магутнасьцяў — каля 40 млн.т.

Сёлета прастой абсталяваньня Наваполацкага і Мазырскага нафтаперапрацоўчых заводаў складзе каля 72%. Рашэньне праблемы — у дапаўненьні паставак энэрганосьбітаў з Расеі пастаўкамі зь іншых нафтаздабыўных рэгіёнаў сьвету. Распрацаваным і найбольш эфэктыўным зьяўляецца праект Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара (БЧНК).

Паэтапная рэалізацыя праекту БЧНК дазволіць Беларусі ўжо праз год атрымаць нафту з тэрміналаў Балтыкі і значна павялічыць загрузку нафтаперапрацоўчага комплексу.

Першы этап рэалізацыі праекту БЧНК (балтыйскі кірунак) патрабуе 300 млн. даляраў. Неабходныя ўкладаньні акупляюцца за два гады. Павелічэньне вытворчасьці аб'ёмаў нафтапрадуктаў дазволіць замяніць у структуры паліваспажываньня энэргетычнай галіны краіны газ на мазуту і замест імпарту пачаць экспарт паліўна-змазных матар'ялаў.

Павелічэньне аб'ёму спальваньня мазуты дазволіць краіне зьнізіць выдаткі на вытворчасьць цеплавой і электрычнай энэргіі ня менш чым на 300 млн. даляраў у год, а агульны эканамічны эфэкт ад загрузкі нафтаперапрацоўчага комплексу і хімічнай галіны складзе каля 900 млн. даляраў у год.

У выніку сабекошт электрычнай і цеплавой энэргіі зьнізіцца на 16%, што палепшыць эканамічнае становішча прадпрыемстваў прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

## Зямельная рэформа

Асноўная мэта зямельнай рэформы — забясьпечыць рацыянальнае выкарыстаньне галоўнага нацыянальнага багацьця краіны — зямлі — у інтарэсах усіх грамадзянаў нашай дзяржавы.

Рэформы землекарыстаньня і прыватызацыі зямлі павінны адпавядаць двум патрабаваньням: выключыць сацыяльныя канфлікты і не дапусьціць зьмяншэньня сельскагаспадарчай вытворчасьці. Гэтыя патрабаваньні могуць быць выкананыя пры ўмове паралельнага ўводу новых формаў гаспадараньня, а не пры татальнай замене адных формаў другімі.

Зямельная рэформа павінна праводзіцца на аснове новага зямельнага заканадаўства, якім гарантуецца прыватная ўласнасьць на зямлю і яе гаспадарчае выкарыстаньне. Аднаўленьне інстытуту прыватнай уласнасьці на зямлю неабходна не для рэалізацыі ідэалагічных установак, а для ўпарадкаваньня сістэмы зямельных дачыненьняў.

Пераўтварэньне дачыненьняў уласнасьці на зямлю павінна праходзіць двума кірункамі. Першы — унутраныя пераўтварэньні калгасаў і саўгасаў, трансфармацыя іх у больш гнуткія арганізацыйныя формы. Цяперашнім калгасам і саўгасам будзе забясьпечана поўная свабода трансфармавацца ў рынкавыя структуры — акцыянэрныя таварыствы, добраахвотныя аб'яднаньні ўласьнікаў, таварыствы, асацыяцыі, саюзы, таварыствы з абмежаванай адказнасьцю і інш. Саўгасы перад пераўтварэньнем будуць разьдзяржаўленыя зь перадачай маёмасьці ва ўласнасьць працоўных калектываў. У распараджэньні дзяржавы застануцца толькі экспэрымэнтальныя базы навуковых установаў, племянныя і элітныя насеньняводчыя гаспадаркі, сортавыпрабавальныя ўчасткі. Дзяржава павінна забясьпечыць юрыдычную, арганізацыйную і мэтадалагічную магчымасьць пераўтварэньняў. Другі кірунак — стварэньне на базе дзяржаўнага рэзэрвовага зямельнага фонду прыватных сялянскіх гаспадарак.

Прыватызацыя зямлі — не самамэта, а сродак падвышэньня эфэктыўнасьці гаспадараньня, гарантыя стварэньня экспартнага патэнцыялу прадуктаў харчаваньня, галоўная гарантыя любых капіталаўкладаў, а значыць — найпершая ўмова ажыўленьня інвэстыцыйнай дзейнасьці і ўсёй эканомікі.

У выніку прыватызацыі зямлі мясцовая ўлада набудзе ўласныя фінансавыя магчымасьці дзеля ажыцьцяўленьня сацыяльных праграмаў дапамогі непрацаздольным жыхарам сяла, якія цяпер часткова выконваюць калгасы і саўгасы. Гэтыя сродкі дае падатак на зямлю. Калгасы і саўгасы павінны не падмяняць мясцовую ўладу, а займацца толькі гаспадарчай дзейнасьцю і плаціць, як і ўсе землеўладальнікі, эканамічна абгрунтаваны падатак на зямлю.

Рынак зямлі, які будзе функцыянаваць праз сістэму іпатэчных банкаў і права на заклад зямлі, — галоўная ўмова самарэгуляцыі эканомікі, яе дынамічнасьці.

## Аграрная палітыка

Галоўная мэта аграрнай палітыкі — эфэктыўная вытворчасьць сельскагаспадарчай прадукцыі.

Вытворца, незалежна ад формы ўласнасьці на сродкі вытворчасьці, атрымае поўную свабоду прадпрымальніцкай дзейнасьці, свабоду выбару, што і дзе вырабляць без усякага ўмяшальніцтва дзяржавы.

Калгасы, саўгасы (і іх правапераемнікі), фэрмэры стануць гаспадарамі ўласнай прадукцыі і змогуць прадаваць яе без абмежаваньняў з боку дзяржавы туды, дзе будзе найвыгадней. Згубная практыка прымусовага забіраньня прадукцыі за бясцэнак пад выглядам дзяржаўнага заказу будзе адмененая.

Кожны вытворца атрымае права самастойна вызначаць цэны на сваю прадукцыю. Іх будзе рэгуляваць толькі канкурэнцыя і платаздольны попыт. Шырокую дзяржаўную падтрымку атрымаюць дзеяньні ўсіх вытворцаў дзеля пашырэньня рынкаў збыту сельскагаспадарчай прадукцыі.

Будзе праводзіцца разьдзяржаўленьне і акцыянаваньне ўсіх прадпрыемстваў перапрацоўчай прамысловасьці зь перадачай больш як 50% акцыяў цяперашнім калгасам і саўгасам ці іхным пераемнікам.

З мэтай больш эфэктыўнага выкарыстаньня наяўнага патэнцыялу і надзейнага забесьпячэньня ўсіх вытворцаў будзе прыватызаваная ўся сельскагаспадарчая тэхніка. На базе цяперашніх цэхаў мэханізацыі гаспадарак і прадпрыемстваў "Сельгасхіміі" будуць створаныя сэрвісныя арганізацыі (станцыі), якія за плату будуць абслугоўваць дзяржаўныя, калектыўныя і фэрмэрскія гаспадаркі, а таксама прысядзібныя ўчасткі.

Дзяржава возьме на сябе падтрымку тэхналагічнай рэканструкцыі ўсіх галін аграпрамысловага комплексу, асабліва перапрацоўчай прамысловасьці зь перавадам яе на безадыходныя тэхналогіі. Прыярытэт будзе аддавацца тэхналогіям з шырокім выкарыстаньнем мясцовай сыравіны, аднаўляных крыніцаў энэргіі (сонца, ветру, вады). Прадпрымальнікі атрымаюць ільготныя крэдыты для закупкі абсталяваньня і будаўніцтва вытворчых аб'ектаў з новымі тэхналогіямі, перадусім малых прадпрыемстваў для перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі.

Радыкальна зьменіцца крэдытна-фінансавая палітыка ў дачыненьні да аграпрамысловага комплексу. Замест падачак у выглядзе датацыяў і спусташальных крэдытаў будуць рэалізаваныя дзяржаўныя праграмы адраснай падтрымкі сельскагаспадарчай вытворчасьці. Вытворца атрымае магчымасьць узяць ільготны крэдыт для будаўніцтва вытворчых памяшканьняў, жыльля, аб'ектаў сацыяльнага, культурнага і бытавога прызначэньня, закупкі абсталяваньня і тэхнікі пад заклад маёмасьці, для чаго ў найкарацейшыя тэрміны будзе арганізаваная сетка іпатэчных банкаў.

## Інвэстыцыйная палітыка

Асноўнай задачай інвэстыцыйнай дзейнасьці зьяўляецца забесьпячэньне пашыранага ўзнаўленьня асноўнага і абаротнага капіталу з мэтай задавальненьня патрэбаў грамадзтва і кожнага чалавека на аснове прыцягненьня і ўкладаньня ўсіх відаў маёмасьці і інтэлектуальных каштоўнасьцяў у гаспадарча-камэрцыйныя, навуковыя, культурныя і іншыя прапрыемствы, праграмы і праекты.

Агульны аб'ём інвэстыцыяў з кожным годам скарачаецца. Калі за два гады (1992 і 1993) ён скараціўся на 38%, то за адзін 1994 год — на 31,5%. Гэтая тэндэнцыя захоўваецца і ў 1995 г.

Акрамя таго, у структуры ўнутраных інвэстыцыяў доля дзяржаўных капітальных укладаньняў зь пераходам да рынкавай эканомікі будзе непазьбежна скарачацца. Г.зн., неабходна абудзіць прыватныя інвэстыцыі (акцыянэрных і страхавых кампаніяў, камэрцыйных і інвэстыцыйных банкаў, прадпрыемстваў і асобных прадпрымальнікаў), павялічыць колькасьць інвэстыцыйных суб'ектаў.

Галоўнай умовай актывізацыі інвэстыцыйнай дзейнасьці грамадзянаў і юрыдычных асобаў (прадпрыемстваў) зьяўляецца безумоўнае заканадаўчае і практычнае гарантаваньне інвэстарам іхных капіталаўкладаў (уласнасьці) і прыватная ўласнасьць на зямлю.

Неабходна вырашыць праблему стымуляваньня зьберажэньняў, што паспрыяе крэдытаваньню беларускай эканомікі пад нізкі працэнт.

Дзяржава павінна стымуляваць тыя кірункі інвэстыцыйнай дзейнасьці, якія адпавядаюць доўгатэрміновым інтарэсам грамадзтва. Галоўныя з гэтых кірункаў — жыльлёвае будаўніцтва, будаўніцтва і рэканструкцыя інжынэрнай і транспартнай інфраструктуры, інфраструктуры сувязі, будаўніцтва аб'ектаў вытворчасьці, заснаванай на мясцовай сыравіне (будаўнічыя матар'ялы, перапрацоўка сельскагаспадарчай прадукцыі і інш.).

Сваім удзелам у інвэстыцыйным працэсе дзяржава павінна спрыяць хуткаму абарачэньню капіталаў і эфэктыўнаму іх выкарыстаньню.

Прыярытэтам у палітыцы жыльлёвага будаўніцтва павінна стаць стварэньне ўмоваў кожнаму грамадзяніну (сям'і) пабудаваць уласны дом (кватэру, гараж, участак — у адным месцы). Гэта дае станоўчы сацыяльны вынік.

Дзяржаўная палітыка павінна ўлічваць розныя фінансавыя магчымасьці розных катэгорыяў насельніцтва. Таму ў бліжэйшы час нельга адмаўляцца ад будаваньня дзяржаўнага сацыяльнага жыльля для малазабясьпечаных за кошт сродкаў ад рэалізацыі дзяржаўных рэсурсаў (зямлі, нерухомасьці) і падаткаў на іх.

Замежны капітал — гэта ня толькі фінансавыя сродкі, але і сучасныя тэхналогіі, рабочыя месцы, інтэлектуальны патэнцыял, досьвед кіраваньня. Будуць створаныя некалькі рэжымаў для замежных інвэстыцыяў. Асабліва прывілеяваны рэжым павінны мець прадпрыемствы, якім патрэбныя буйныя капіталаўклады. Патрэбныя наступныя льготы: вызваленьне ад мытных пошлінаў пры ўвозе абсталяваньня і сыравіны, бяспошлінны вываз гатовай прадукцыі, поўнае або частковае вызваленьне ад падатку на прыбытак на пэўны тэрмін, свабода рэпатрыяцыі прыбытку.

Нормы, якія рэгулююць рэжым інвэстыцыяў, павінны ўключацца ў гандлёвыя дагаворы і кантракты; будуць прадугледжаныя спэцыяльныя двухбаковыя пагадненьні аб інвэстыцыях.

Неабходна выкарыстаць перавагі міжнароднага падзелу працы і ўвайсьці ў сусьветны інвэстыцыйны рынак. Для гэтага трэба стварыць умовы, ня горшыя за сусьветныя. Трэба імкнуцца ня толькі да імпарту капіталу, але не забывацца на экспарт, стварыць спрыяльныя ўмовы і для эксплуатацыі рэсурсаў іншых краін.

# Уся міліцыя працуе на Чыгіра

**У сьвяточныя дні Вялікадня ўладальнікі легкавога транспарту былі вельмі зьдзіўленыя ўзмоцненымі пастамі міліцыі, якія стаялі амаль на кожным скрыжаваньні па ўсёй тэрыторыі Беларусі.**

Паставыя спынялі і правяралі найперш лімузіны замежнай вытворчасьці, асабліва "мэрсэдэсы". Справа у тым, што ўсе раённыя аддзелы міліцыі краіны атрымалі зь Менска тэрміновую тэлефанаграму-загад на пошук і зартрыманьне "Мэрсэдэса-320" (дзяржаўны нумар 0421 МІ, чорнага колеру), які вазіў прэм'ер-міністра М.Чыгіра. Лімузін меў спадарожнікавую сувязь.

Афіцыйныя асобы міліцыі і дзяржаўных установаў адмовіліся даць карэспандэнту СВАБОДЫ якую-небудзь інфармацыю пра пошукі "Мэрсэдэса". Супрацоўнік прэс-службы МУС паведаміў, што ўгон нават не значыцца ў апэратыўнай міліцэйскай зводцы і зьвесткі пра здарэньне ён сам атрымлівае з прэсы.

"Мэрсэдэс" прэм'ер-міністра быў скрадзены 20 красавіка апоўдні, калі кіроўца Чыгіра пайшоў абедаць, прыпаркаваўшы машыну каля дома на праспэкце Машэрава. Паводле словаў міліцыянтаў, калі злачынцы пакідалі межы Менска, "даішнікі" аддавалі ім чэсьць, мяркуючы, што едзе сам прэм'ер.

У той жа дзень прэзідэнт Лукашэнка заявіў у тэлеэфіры, нібыта аўтамабіль Чыгіра знойдзены. Але, як высьветлілася, наш "бацька" у чарговы раз схлусіў, бо ні тады, ні праз пяць дзён аўтамабіль прэм'ера знайсьці не ўдалося. На момант падрыхтоўкі гэтай інфармацыі (26 красавіка, 12.00) міліцэйскія пасты працягвалі дзяжурыць на дарогах да "асаблівага распараджэньня".

Ха-а-рошы быў аўтамабіль...

У размове з карэспандэнтам СВАБОДЫ адзін супрацоўнік сталічнага крымінальнага вышуку, які займаецца гэтай справай, сказаў, што "Мэрсэдэс" Чыгіра скралі "хутчэй за ўсё на замову і знайсьці яго наўрад ці ўдасца". Ён мяркуе, што машына альбо ўжо знаходзіцца за межамі Беларусі, альбо стаіць у нейкім гаражы (адстойніку).

Другі афіцэр міліцыі, які на працягу ўсіх гэтых дзён непасрэдна займаўся пошукамі аўтамабіля, заявіў, што за тыя грошы, якія былі змарнаваныя на пошукі (расход паліва, выкарыстаньне верталётаў і г.д.), можна было купіць 3—4 такія "Мэрсэдэсы".

А пакуль што прэм'ер Чыгір карыстаецца службовай "Вольвай".

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

*P.S. Паводле міліцэйскіх зьвестак, за першы квартал 1995 г. у Беларусі было скрадзена 311 аўтамабіляў, зь іх адшукана толькі 159.*

# Сьмяротны выбух

**Велікоднай ноччу у Кобрыні па вул.Чарнышова адбыўся выбух, які цалкам зьнішчыў жылы дом і гараж.**

Загінуў сын гаспадароў, дзесяцікласьнік. Папярэдняе сьледзтва ўстанавіла, што прычынаю мог стаць сапсаваны аўтамабіль, які меў газавы рухавік.

**Алесь ПЕТРУСЕВІЧ**

# "Лёзьненскі стрэл" зноў актуальны

**Днямі да аднаго з кандыдатаў у дэпутаты па Кобрыньскай гарадзкой выбарчай акрузе завітала група маладых людзей прывабнай зьнешнасьці, але з досыць дзіўнаю прапановаю.**

"Мы хочам бачыць вас дэпутатам новага парламанту і ведаем, як гэта зрабіць", — упэўнена заявілі яны. А потым выклалі свой план: яны таемна вывозяць кандыдата куда-небудзь у глухую вёсачку, дзе ён павінен прабыць двое-трое сутак. Тым часам ініцыятыўная група падымае вялікі лямант, а затым кандыдату "акуратна" ставяць "фінгал" пад вока, рвуць кашулю і ціха вяртаюць назад. І ня трэба ніякіх праграмаў, бо вядомасьць робяць не праграмы, а скандал. Аднак кандыдат ад такіх паслугаў адмовіўся, заявіўшы, што ён ня хоча ісьці ў дэпутаты "лёзьненскім" шляхам Лукашэнкі.

**Мірон ГАМОН**

# Вядзьмак дапамагае кандыдатам

**Каб прыцягнуць увагу да сваіх выбарчых улётак, кандыдаты ў дэпутаты ідуць на розныя хітрыкі.**

Некаторыя друкуюць на адваротным баку календары садаводаў, расклад руху электрычак, тэлефоны мясцовага начальства і г.д. А вось журналіст з Наваполацка Алесь Козік на сваёй кандыдацкай улётцы скапіяваў ксэраксам паэму Ведзьмака Лысагорскага "Лука Мудзішчаў — прэзідэнт", якая друкавалася ў газэце СВАБОДА. Гэтая ўлётка карыстаецца найвялікшым попытам у выбаршчыкаў. Пры гэтым людзі шкадуюць, што Вядзьмак вымушаны хаваць сваё сапраўднае імя і ня можа вылучыцца кандыдатам — посьпех на выбарах яму быў бы гарантаваны.

**Яўген АЛАДКА**

# Што страшней?

У сваёй передвыбарчай праграме кандыдат у дэпутаты навапалачанін Анатоль Кулік прапанаваў унесьці у Крымінальны Кодэкс Беларусі новыя меры пакараньня: пажыцьцёвае зьняволеньне і лягчаньне (кастрацыя).

**Васіль КРОКВА**

# Вэтэранская вахта

**На незвычайную вахту перад Вялікаднем вымушаныя былі стаць вэтэраны вайны і працы з Ашмянаў.**

Каб атрымаць пэнсіі, яны займалі з 2-х гадзінаў ночы чэргі на раённым вузьле сувязі.

**С.ВАЛОШКА**

# Прыпеўкі пра Лукашэнку не спадабаліся

**У мінулую пятніцу на беларускім радыё павінна была выйсьці ў эфір праграма, падрыхтаваная журналістамі з Горадні.**

Аднак менскае начальства забараніла іхную 15-хвілінную перадачу, якая складалася з кароткіх інфармацыяў і вясёлых народных прыпевак пра Кебіча ды Лукашэнку.

**М.МІКАЛАЙЧЫК**

# Ультыматум музэю

**У Кобрыньскі райвыканкам прыйшоў ліст-ультыматум, падпісаны арганізацыяй "Беларуская вызвольная армія".**

Ліст адрасаваны музэю Суворава ў Кобрыні. Аўтары патрабуюць зьмены экспазіцыі музэя і назвы. Калі ж гэта ня будзе зроблена да 1-га траўня, яны абяцаюць перайсьці да тэрарыстычных актаў. **Ігар БАРАНОЎСКІ**





## Субота, 6 траўня

### Беларускае тэлебачаньне

7.35 Ранішні кактэйль.
7.50 Эканамікст.
8.00 Люстэрка Сі-Эн-Эн.
8.15 Студыя "Палітыка".
8.30 "Дзякуй, салдат!", д/ф.
8.55 Да 50-годзьдзя Перамогі. Франтавы альбом.
9.00 Скрыжалі.
9.05 "Атрад спэцыяльнага прызначэньня", м/ф. 4-я і 5-я сэрыі.
11.30 Студыя "Ч/б". Дыскусійны клуб.
12.00 "Маленькі сяржант", м/ф.
13.25 Мультфільмы.
13.50 "Старшына", м/ф.
15.15 "Я песьні аддаў ўсё цалкам", ф/к.
16.05 "Скрыжаваньні вайны". Тэлеспэктакаль. Частка 4-я.
17.15 Запрашаем на вячоркі.
18.00 АТН, Бі-Бі-Сі, Сі-Эн-Эн.
18.45 "Зорная ростань". Віцебскі тур. Перадача 6-я.
19.45 Фінансавы час.
20.00 Міжнародныя спартовыя навіны.
20.35 Калыханка.
21.00 Навіны.
21.40 Кліп-канцэрт.
21.50 Вясёлы ўік-энд.
22.00 Шоў-прагноз.
22.05 Я.Леонаў і А.Папанаў у м/ф "Беларускі вакзал".
23.45 Пад купалам Сусьвету.
23.55 "Нов і К"-топ-рэвю.
0.35 Відзьма-нявідзьма.

### 1 канал

5.00 Тэлеранак.
8.00, 11.00, 14.00, 0.05 Навіны.
8.20 Грае інструмэнтальны ансамбаль пад кіраўніцтвам Ф.Ліпса.
8.50 Сёмае неба.
9.40 Нашыя на амэрыканскім лёдзе. І.Радніна. Частка 2-я.
10.05 "Прырода сьвету". Н/п сэрыял.
10.55, 13.55, 16.55, 17.50, 19.55, 20.40, 22.45 Непераможныя.
13.00 "Іваноў, Пятроў, Сідараў..."
13.35 Пераадоленьне.
14.20 Тэлерадыёкампанія "Мір". "Паклонная гара".
15.00 "Адрынутыя". Мультсэрыял.
15.25 Зорная гадзіна.
16.00 Шпаргалка.
16.05 "Элен і хлопцы".
16.30 ТВ-давер.
17.00, 20.00 Час.
17.20 "Адгадай мэлодыю".
17.45 Жывое дрэва рамёстваў.
17.55 Футбол. Адборачны матч чэмпіяната Эўропы. Зборная Расеі - зборная Фарэрскіх астравоў. У перапынку - Добрай ночы, малышы!
20.45 "Стрэл у паветра". Мэлядрама (Аргентына).
22.30 Вэрсіі.
22.50 Канцэрт, прысьвечаны Дню радыё.

### Канал "Расея"

7.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.25 Рытміка.
7.40 Зоркі гавораць.
7.45 Патрабуюцца...Патрабуюцца...
7.50 Час спраўных людзей.
8.15 Тэлегазэта.
8.20 Сусьветныя навіны Эй-Бі-Сі.
11.30, 13.20 Спраўная Расея.
15.05 Там-там навіны.
15.20 Футбол бязь межаў.
16.20 Мая вайна.
16.55 Хакей. Чэмпіянат сьвету. Матч за 3-е месца. 1-ы і 2-і пэрыяды. У перапынку — Сьвята штодня.
18.30 Кінаканцэрт.
19.25 Падрабязнасьці.
19.35 Хакей. Чэмпіянат сьвету. Матч за 3-е месца. 3-і пэрыяд.
20.25 Кінафэстываль "Дзень Перамогі". "Жэня, Жэнечка і "Кацюша", м/ф.
22.30 Рака часу.
22.35 Аўтаміг.
22.40 Зусім сакрэтна.
23.30 Праграма "А".

### Санкт-Пецярбург

11.55 "Мэцэнат". Прэм'ера фільма.
12.50 Тэлеслужба працаўладкаваньня.
13.05 Да 100-годзьдзя з дня вынаходніцтва радыё. "Аляксандар Папоў", м/ф.
14.40 Да 50-годзьдзя Перамогі. Песьні нашай памяці.
14.55 Мультфільм.
15.10 Зебра.
16.00 Адкрыцьцё Спартакіяды дзяржаваў СНД.
18.10 Вялікі фэстываль.
18.30, 21.40 Інфарм TV.
18.50 "Зялезныя хлопцы", м/ф.
20.10 Мультфільмы для дарослых.
20.30 Пецярбургскі ангажамэнт.
21.15 "Наабум".
21.30 Праграмма тэлезаўтра.
21.55 Спартовая праграма.
22.15 Гараскоп.
22.20 Тэлеканал "Ня хочаш - не глядзі".
23.20 "Забойства ў Рыме" (Італія).
0.55 Зорны салют. Канцэртная праграма.

## Нядзеля, 7 траўня

### Беларускае тэлебачаньне

7.55 "Праз гады", д/ф.
8.05 "Любімыя песьні майго дзеда". Музычная праграма для вэтэранаў і ўнукаў.
8.45 Да 50-годзьдзя Перамогі. Канцэрт вучняў музычнай школы N 10 г.Менска. 1-е аддзяленьне.
9.35 "Лулу - анёл кветак". Мультсэрыял.
10.05 Тураб'ектыў. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак.
10.25 Урокі Н.Наважылавай.
10.55 "Усё нармальна, мама!" Сьвяточная праграма да Дня радыё.
11.25 Аўта-парк.
11.40 Да 50-годзьдзя Перамогі. "Не магу не разважаць". Пісьменьнік І.Капыловіч.
11.55 Пра шахматы і шахматыстаў.
12.25 Пераможца.
12.45 "Пасьля 2000 году". Н/п сэрыял.
13.15 Пасольскі двор.
13.45 Да 50-годзьдзя Перамогі. "Стужка ўспамінаў".
14.50 Да 50-годзьдзя Перамогі. Шматгучча.
15.50 Франтавы альбом.
16.00 Урачыстае паседжаньне і канцэрт, прысьвечаныя 50-годзьдзю Перамогі.
19.00 Шоў-прагноз.
19.05 Тэлекрама.
19.15 Вясёлы ўік-энд.
19.25 Праспэкт.
19.55 "Званы госьць". Я.Весьнік.
20.35 Калыханка.
21.00 Рэзананс.
21.45 Кліп-канцэрт.
21.55 "Залатая ліра". Перадача 4-я.
22.45 Да 50-годзьдзя Перамогі. "Балада пра салдата", м/ф.
0.10 Абібок.
0.30 Пад купалам Сусьвету.

### 1 канал

5.00 Тэлеранак.
7.30 Алімпійскі ранак.
8.00, 14.00, 23.30 Навіны.
8.20 Раным-зрана.
8.50 "Бюро знаходак". Мультсэрыял.
9.05, 10.55, 13.40, 15.55, 16.55, 18.25, 20.55, 22.45 Непераможныя.
9.10 Пакуль усе дома.
9.40 Ранішняя зорка.
10.25 Палігон.
11.00 Сусьветная геаграфія. Тэлечасопіс "Дасьледнік".
11.55 Перамога памяці. Георгій Жукаў.
12.20 Грай, гармонік!
13.00 Пад знакам "Пі".
13.45 Спорт падчас абеду.
14.20 Зоркі ў Крамлі. Канцэрт-сустрэча ў гонар 50-годзьдзя Перамогі.
15.10 Клуб падарожнікаў.
16.00 Акно ў Эўропу.
16.30 Мультсэрыял.
17.00 Час.
17.20 Тэатар+ТВ.
18.00 Адзін на адзін.
18.30 Эх, шлях-дарожка франтавая...
18.35 "Ідзі і глядзі", м/ф. 1-я і 2-я сэрыі.
21.00 Нядзеля.
21.45 Вікторыя. Фэстываль салдацкай песьні.
22.50 Да і пасьля...

### Канал "Расея"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.20 Зоркі гавораць.
7.30 Залаты ключык.
7.45 Вялікі хакей.
8.20 Добрай раніцы. "Сьняданак для чэмпіёнаў".
8.50 Аты-баты...
9.20 Славянскі марш. Да 155-годзьдзя з дня нараджэньня П.І.Чайкоўскага.
10.05 Рускае лата.
10.50 "Быў месяц май". Г.Пажэнян.
11.05 "У гонар пяцідзесяцігодзьдзя міру ў Эўропе". Трансьляцыя з Лондана.
11.55 "Гаворыць Масква".
12.15 Майстар В.Цыгаль.
13.20 Кінафэстываль "Дзень Перамогі". "Лёс чалавека", м/ф.
15.05 Лепшыя гульні НБА.
16.00 "Вялікі лес Каледоніі", д/ф з тэлесэрыяла "Таямніцы жывёлаў".
17.00 "Русалачка", "Новыя прыгоды Віні Пуха".
17.55 Сьвята штодня.
18.05 Кінаафіша.
18.20 Відэапаэзія. К.Сіманаў.
18.25 У Ксюшы."Майскімі кароткімі начамі..."
19.25 "ТЭФІ-94".
21.40 Каробка перадач.
22.30 Рака часу.
22.35 Аўтаміг.
22.40 Хакей. Чэмпіянат сьвету. Фінал.

### Санкт-Пецярбург

6.30 Гаючае слова. Праграма-набажэнства.
7.00 Добрай раніцы.
8.30 Жыўцом... "Крама" (Беларусь).
10.00 Стыль жыцьця.
10.15 "Паглядзім". Анонс тэлепраграм.
10.30 Да 100-годзьдзя з дня вынаходніцтва радыё.
11.00 Нядзельны лабірынт.
12.35 Сёньня - дзень радыё. Гістарычны альманах.
13.05 Залаты ключ.
14.00 Урачысты сход і канцэрт, прысьвечаныя 50-годзьдзю Перамогі.
16.55 Футбол. Чэмпіянат Італіі. Прамая трансьляцыя.
18.50 "Нешчасьлівы востраў". Тэлегульня.
19.30, 21.40 Інфарм TV.
19.50 "Наша кіно". "Танк КВ-2". Прэм'ера.
21.25 "Паглядзім". Анонс тэлепраграм.
22.00 Дзёньнік спартакіяды.
22.35 Адам і Эва+.
23.05 "Севастопальскі вальс". Фільм-апэрэта.

Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 27.4.95 (5.00). Надрукавана ў Аршанскай друкарні (г.Ворша, вул.Замкавая, 3).  Спасылка на газэту СВАБОДА абавязковая. Наклад 93 000